# Цёплыя вечары...
# ... ды халодныя ранкі






## ФЕСТЫВАЛЬ ПЕСЕННАГА ФАЛЬКЛОРУ
## ПАМЯЦІ ЗЕМАВІТА ФЯДЭЦКАГА

ФЕЛІКСАВА



наша
СЛОВА





# *Цёплыя вечары... ды халодныя ранкі*

**Першы фестываль песеннага фальклору памяці Земавіта Фядэцкага**



**г. Ліда**
**2017 г.**

**"Цёплыя вечары… ды халодныя ранкі. Першы фестываль песеннага фальклору памяці Земавіта Фядэцкага".** Выдавецкі дом Грамадскага аб’яднання “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”. Ліда., 2017. 88 с. На беларускай мове.

У кнігу ўвайшлі: справаздача з Першага фестывалю-конкурсу памяці Земавіта Фядэцкага “Цёплыя вечары... ды халодныя ранкі” і кірылічная частка зборніка Земавіта Фядэцкага “Цёплыя вечары …..ды халодныя ранкі, czyli co spiewano w Fieliksowie” (1992). Правапіс зборніка захаваны. Скарыстаны аўтэнтычныя застаўкі.

Тэкст Ганны Некраш.

Фота .. і Станіслава Судніка.

Рэдактар С. Суднік.

# Песні Атлантыды

**Дзейныя асобы:**
Малады Земавіт Фядэцкі.
Яго маці Марыя Фядэцкая.

*Гучыць песня “Цёплыя вечары, ды халодныя ранкі”. На сцэну выходзіць малады Земавіт Фядэцкі.*

**Земавіт:** А, Божа ж мой, як прыгожа спяваюць. Якая песня, якая паэзія. Ніводнага лішняга слова, ніводнага лішняга гуку. Стаяў бы і слухаў, слухаў. Сам бы падцягнуў, каб не баяўся парушыць гармонію. А мова, якая мова! Дзе вы пачуеце такую мову, так прыдатную да песні. Ні ў Польшчы, ні ў Германіі, мо сама каралева оперы - італьянская мова ці зраўняецца з нашай. Гэта ж, каб пачуць калі тую беларускую оперу, ды што там опера, пачуць бы вось гэтыя песні з вялікай сцэны, лепш за оперу будзе...

**Марыя:** Зёмак, а Зёмак! Дзе ты забавіўся? Ужо вечар, халадком цягне. Ідзі ў хату, каб не прастудзіўся.

**Земавіт**: Што вы, мамуся, чуеце, што ў песні спяваюць: гэта ранкі ў нас халодныя, а вечары то цёплыя. Паслухайце, якія песні, якая прыгажосць. А вакол вайна. Ці пераживуць гэтыя песні вайну, ці перажывуць людзі, ці не пойдзе ўсё тут адной ночы агнём. Ці не знікне ўсё: і людзі, і песні, як знікла некалі Атлантыда. Вось, каб знайшоўся хто, ды запісаў усё гэта, ды схаваў, ды перахаваў ліхую гадзіну, то і не прапала б, то і засталося б для будучыні.

**Марыя:** А мой ты сыночак! То каму ж гэта зрабіць, як не табе. Ты тут вырас, ты мову беларускую ведаеш, мо, лепей за саміх сялян,

бо ты ж адукаваны. Колькі ты гэтых песень сам пераспяваў з феліксаўскімі дзяўчатамі і хлопцамі! Ты ж і музыцы вучыўся, то зможаш і мелодыю запісаць. Не адкладвай, бярыся!

**Земавіт:** Так, бяруся. Рана нам яшчэ быць Атлантыдай. Мы пабудзем яшчэ Беларуссю, з нашымі песнямі, з нашаю мовай, з нашай светлай будучыняй.

Будуць у нас цёплыя вечары.
Будуць і халодныя ранкі.
Але будзе і ясны, светлы дзень!

Гэтая сцэнка аўтарства Станіслава Судніка ў пранікнёным выкананні акцёраў народнага тэатра “Бераг” з Мінойтаў сталася пралогам да новага фестывалю-конкурсу, які быў заснаваны на Лідчыне 24 верасня 2017 года.

Трэба сказаць, што ўсе мерапрыемствы традыцыйнай культуры, што ладзяцца на Лідчыне, праходзяць вельмі душэўна і шчыра. Не выключэнне і гэты адкрыты рэгіянальны фестываль песеннага фальклору памяці Земавіта Фядэцкага "Цёплыя вечары… ды халодныя ранкі…", які прайшоў у філіяле "Мажэйкаўскі Дом культуры" ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці".

Земавіт Фядэцкі нарадзіўся 22 жніўня ў 1923 у маёнтку Лебяда, непадалёк Мажэйкава. У цяжкія часіны вайны жыў у вёсцы Феліксава, у сям'і свайго сябра Ўладзіміра Мальца. Ён працаваў з ім у полі, дапамагаў будаваць новую хату, хадзіў на вячоркі, на вяселлі, на талокі, на хрысціны і на хаўтуры, дужаўся з хлопцамі на ігрышчах, танцаваў з паненкамі на вечарынах, а потым запісваў песні феліксаўскіх сялян, не ведаючы, ці будзе з гэтага запісу нейкі спажытак і ці здолее ў будучым надрукаваць свой зборнік. Запісваў у сшытак, зроблены з бланкаў Таварыства беларускай школы, якія засталіся ў вёсках з часоў змагання за школы на роднай мове, што ішло тут не адзін год. Запісваў на бланках, бо іншай паперы проста не было. Бланкі ж ацалелі таму, што друкаваліся на таўставатай паперы, якая не вельмі ішла на самакруткі.

Зборнік гэтых песень пад назвай "Цёплыя вечары …..ды халодныя ранкі, czyli co spiewano w Fieliksowie" выйшаў 1992 годзе і дайшоў да Новай Зеландыі, а ў Італіі яго назвалі "Песні Атлантыды".

Рэпертуар удзельнікаў самы разнастайны: вясельныя, зажыначныя, дажыначныя, вялікодныя, калядныя. Удзельнікі дарослай катэ-




***Вядоўцы: Андрэй Колышка і Тамара Зенюкевіч***




***Пралог. Удзельнікі народнага тэатра “Бераг” Святлана і Данііл Чайко філіяла “Мінойтаўскі цэнтр культуры і вольнага часу”***




***Кіраўнік народнага ансамбля бытавых інструментаў***
***“Каханачка” філіяла “Мажэйкаўскі дом культуры”***
***Людміла Масевіч***




***Алеся Ярунічава - культарганізатар філіяла “Ёдкаўскі дом культуры”, пераможца фествалю-конкурсу***




***Святлана Іосіфаўна Баброўская, вёска Мінойты***



***Інэса Георгіеўна Парфенчык, філіял “Бердаўскі цэнтр культуры і вольнага часу”***




***Фальклорны гурт “Талер” Аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры***




***Наталля Мікалаеўна Шчалканогава - кіраўнік фальклорнага гурта “Талер” Аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры***




***Народны ансамбль бытавых інструментаў “Каханачка” філіяла “Мажэйкаўскі дом культуры”***




***Яніна Браніславаўна Буткевіч, вёска Белявічы Крупаўскага сельсавета***




***Алена Міхайлаўна Бічэль, аграгарадок Беліца***




***Яніна Іванаўна Руцкая, аграгарадок Крупава***




***Станіслава Іванаўна Грабліс, аграгарадок Дзітва***




***Фальклорны гурт “Ваверэск” філіяла “Ваверскі дом культуры”***




***Агульны здымак усіх удзельнікаў і арганізатараў фестывалю-конкурсу***

горыі выконвалі песні са сборніка Земавіта Фядэцкага, а вось носьбіты выконвалі песні, якія спявалі ў маладосці і пачутыя яшчэ ад сваіх матуль і бабуль. Сталі пераможцамі ў сваёй катэгорыі носьбіты самага шаноўнага ўзросту: Яніна Браніславаўна Буткевіч (87 год) з вёскі Белевічы - лаўрэат III ступені, Яніна Іванаўна Руцкая з аграгарадка Крупава (89 год) - лаўрэт II ступені, Станіслава Іванаўна Грабліс з аграгарадка Дзітва (78 год) - лаўрэат І ступені, а таксама лаўрэтам І ступені стаў фальклорны гурт "Вавярэск" з Ваверскага Дома культуры.

У дарослай катэгорыі лаўрэатам III ступені сталі гаспадары - ансамбль бытавых інструментаў "Каханачка" з Мажэйкава, лаўрэатам II ступені - фальклорны гурт "Талер" аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры, лаўрэатам І ступені стала Алеся Ярунічава з аргарадка Ёдкі, Алеся яшчэ атрымала і прыз глядацкіх сімпатый.

І не менш бліскуча вялі фестываль акторка Лідскага народнага тэатра Тамара Зенюкевіч і кіраўнік гурта “Гудскі гармонік” Андрэй Колышка.

Трэба адзначыць, што ні адзін мастацкі калектыў, хто выконвае народныя песні ў апрацоўцы ці пад сучасны акампанемент на фестываль дапушчаны не быў.

Напрыканцы хочацца сказаць, што ў прадмове да зборніка песень Земавіт Фядэцкі пісаў: *"Я і сам буду заглядваць у свой зборнік, услухоўвацца ў словы і ноты, каб яшчэ раз убачыць Беларусь, катораю я пакахаў з маленства, гэтую цудоўную старонку, сумную і вясёлую, што грае і пяе быццам яе нехта гукамі апырскаў”*.

Трэба дадаць і наступнае: Земавіт Фядэцкі памёр 8 студзеня 2009 года, а ўжо ўсяго праз 8 гадоў, сёлета ў 2017 годзе быў заснаваны фестываль ягонай памяці. Такое адбываецца з нямногімі вялікімі. (Скажам, першы фестываль памяці У. Высоцкага прайшоў у Беларусі праз 35 гадоў пасля смерці). Для гэтага трэба мець вялікія заслугі або перад мастацтвам ці культурай, або перад народам. Маленькая кніжачка з сабранымі песнямі адной вёскі наўрад бы ці заважыла на такую вялікую заслугу перад культурай. Значыць, тут асноўная заслуга перад народам, перад грамадствам, перад тымі людзьмі, якія тут жылі некалі і жывуць цяпер.

Некалі на ровары маладога паніча Зёмака Фядэцкага навучылася ездзіць моладзь некалькіх навакольных вёсак. І гэта таксама памяталі ўсе, пакуль жылі. Земавіт Фядэцкі хаваў рукапіс гэтых песень амаль 50 гадоў у ваенны час, у час працы ў амбасадзе Польшчы ў Маскве, потым на розных кватэрах у Варшаве, як быццам не было нічога больш каштоўнага, што варта было б схаваць ці вазіць з сабою

і праз вайну, і праз паваенную разруху, і праз варшаўскі побыт, такі далёкі ад страчанай, як падавалася, навек Беларусі, у якую ён і прыехаць ужо не спадзяваўся. За ўсім гэтым відна вялікая любоў Земавіта Фядэцкага да радзімы, і радзіма адказала яму такой жа любоўю, як ува ўсіх добрых людзей быць павінна.

Вялікі дзякуй спонсарам мерапрыемства: Дому гандлю, асабіста кіраўніку - Валерыю Генрыхавічу Касяку, лідскаму хлеба-заводукіраўнік Лявон Лявонавіч Кулік і ЛРСУП "Мажэйкава" - кіраўнік Роўба Пётр Феліксавіч. У куточках фестывальных банераў сціпла прымясціўся лагатып газеты “Наша слова”. Гэта значыць, што і газета спрычынілася да падрыхтоўкі фестывалю.

Наш фестываль стаў доказам любові кожнага ўдзельніка да народнай песні, да сваёй маленькай радзімы, да Бацькаўшчыны, доказам таго, што мы пачалі вучыцца памятаць сваіх продкаў і іхнія заслугі перад краінай і народам.

***Ганна Некраш***,
*вядучы метадыст ДУ*
*"Лідскі раённы цэнтр культуры і*
*народнай творчасці”.*

# Беларускія
# народныя песьні
# Лідзкага павету

сабраў

Земовіт Фэдэцкі

у 1942-1943 г.

Песьні запісаны пераважна ў вёсцы Фэліксова, воласьць Скрыбаўцы, раён Жалудак

У .................................................. Управу Т-ва Беларускае Школы

У м. ..............................

Вуліца ..............................

Грамадзяне (вёскі, места, мястэчка) ..............................

..............................

Воласьці ..............................

Павету ..............................

Пошта ..............................

# ЗАЯВА

Мы, ніжэйпадпісаныя, просім .............................. Управу залічыць нас у сябры Т-ва Беларускае Школы, выдаць нам сяброўскія білеты і залажыць Гуртот Т-ва Беларускае Школы у вёсцы .............................. воласьці ..............................

Часовым кіраўніком Гуртка просім назначыць грамадзяніна (імя і прозьвішча) ..............................

..............................

Сядзіба Гуртка будзе мясьціцца ў хаце грамадзяніна ..............................

Пры гэтым абавязваемся выконваць усе вымаганьні статуту, пастановы агульнага сходу і .............................. Управы.

Зьмест § 12 статуту нам вядомы.

| № | ПРОЗЬВІШЧА І ІМЯ | Уласнаручныя подпісы | Прафэсія | Век (не маладзей 21 году) | Назоў вёскі або адрас |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

# Пану Школьнаму Інспэктару

У месьце ..............................

Паўнамоцніка жыхароў вёскі ..............................

воласьці .............................. павету ..............................

(імя і прозьвішча) ..............................

# ЗАЯВА

У зьвязку з распараджэньнем Міністра Рэлігійных Спраў і Публічнае Асьветы ад 7.I. 1925 г. у справе школьнага уставу ад 31.VII. 1926 году я, ніжэйпадпісаны паўнамоцнік сялян вёскі .............................. гэтым перасылаю „..........“ штук дэклярацыяў на „..........“ дзяцей у справе беларускае выкладовае мовы ў школе ў вёсцы ..............................

Ад грамадзян вёскі ..............................

| № | ІМЯ І ПРОЗЬВІШЧА БАЦЬКІ, МАТКІ ЦІ АПЯКУНА | ІМЁНЫ ДЗЯЦЕЙ, ПАДАНЫХ У ДЭКЛЯРАЦЫЯХ |
|---|---|---|
| 1 | .............................. | .............................. |
| 2 | .............................. | .............................. |
| 3 | .............................. | .............................. |
| 4 | .............................. | .............................. |
| 5 | .............................. | .............................. |
| 6 | | |

4

# Прадмова

"Ці жонка звонка? Ці дзеткі гудуць?" - пытаў у нашай ваколіцы сусед суседа і не дагадваўся нават, што гэтым пытаньнем перакладвае прозу штодзённага жыцця на музыку. Калі ў хаце згук ды зык, калі сыздалі чуць, як усё там пяе - значыцца справы ідуць на добры лад.

А каля гэтай самай хаты сядзелі вясной на чарэшні салаўі і жартавалі па-беларуску, хаця ім здавалася, што яны пяюць:

- Паскроб, паскроб!
- Дзе, дзе, дзе?
- Ту, ту, ту!
- Дзе, дзе, дзе?
- Ту, ту, ту!
- Ць, ць, ць...
- А-а...

Ды не толькі жывыя творы гаварылі на нашай каханай Беларусі. Стыхіі таксама. Беларуская вада часам сьмяецца, часам плача, нешта шэпча, а часам маўчыць. Гэта таксама гук. "А ў Бэтлееем ціхая вада..." - пяюць Палешукі ў Калядны Вечар. Словы калядкі вельмі спадабаліся нашаму паэту Канстантаму Ільдэфонсу Галчынскаму. Ён запытаў мяне: "Слухай, Земак, ці магу я ўзяць гэтае ў свае вершы?". "Бяры", - адказаў я. - Беларусы людзі добрыя. Не шкадавалі песьняў Міцкевічу, і табе не пашкадуюць". Такім спосабам беларуская "ціхая вада" трапіла ў паэму Галчынскага "Ніобэ".

Як не кінь, сьпеў і мова не жывуць на Беларусі паасобна. Яны заўсёды разам.

У цяжкія часіны вайны я жыў некалькі год у Фэліксове, у сямьі майго сябры Ўладзіміра Мальца. Я працаваў зь ім у полі, памагаў

будаваць новую хату, хадзіў на вечаркі, на вясельля, на талокі, на хрысьціны і на хаўтуры, дужаўся з хлопцамі на ігрышчах, танцаваў з паненкамі на вечарынах - а потым запісваў у сшытак фэліксоўскія песьні.

Зразумела, я не ведаў, ці будзе з гэтага калісьці нейкі спажытак і ці здалею ў будучыні выдрукаваць свой зборнік. Аднак ужо тады мне хацелася дасягнуць нешта іншае ад звычайных этнаграфічных запісак. Я імкнуўся намаляваць музычны партрэт аднае вёскі, паказаць сваеаблічную "сьпеўную бібліатэку", з каторай штодзень карысталі жыхары Фэліксова. Міхал Фэдэроўскі ў прадмове да свае помніковае працы "Lud bialoruski" напісаў:

*"Tom jeden przypisac przyszlej inteligencji bialoruskiej. Sa to skarby naszych ojcow, dziedzitwo to przebogate, i skazki, i piesni, i baje dziadow prszemilych. W proch byly one wdeptane, jako ziarna zlote, ja je dobylem, a wy posiejcie, aby wasze przyszle pokolenia plon obfity zebraly".*

Я надта добра ведаю, што я звычайны аматар, але беларуская песьня мне таксама дарагая і блізкая, як і вялікаму вучонаму. І калі мне ўдалося ўратаваць ад забыцьця хоць горстачку таго скарбу, гэта будзе для мяне ўзнагародай. Я склаў фэліксоўскія песьні найлепш як толькі ўмеў і цяпер аддаю іх у рукі чытачоў. Як кажуць - грэх у мех, а ратунак наверх. Даруйце аўтару ўсе яго памылкі. Гэта кніга - для людзей і для мяне самога. Я хачу верыць, што чорнае трупяхлё зьдзеку перастане ўрэшце нішчыць жывое цела беларускае мовы і што новае пакаленьне зачне больш, чым раней цікавіцца песьнямі свае бацькаўшчыны. І можа пойдзе на пошукі слаўнага сяла Фэліксова. Вось кірунак - Лідчына, каля Жалудка.

Я і сам буду заглядваць у свой зборнік, услухоўвацца ў словы і ноты, каб яшчэ раз убачыць Беларусь, каторую я пакахаў з маленства, гэту цудоўную старонку, сумную і вясёлую, што зьзяе, грае і пяе быццам яе нехта гукамі апрыскаў.

***Земовіт Фэдэцкі.***

**1. Цёплыя вечары...**

(Любоўная - ад Уладзіміра Мальца, 31 год)




Цёплыя вечары
Ды халодныя ранкі.
Забавіўся за нялюбаю,
Ні сходзіў да каханкі.*

- Скажы, міла, праўду,
Што дала за прынаду?
Ці ты міне верне любіш,
Ці на якую здраду?

- Ой, я цібе люблю -
Сам Бог тое знае.
Бадай таму ды ліха стала.
Хто з табой нас разлучае.

Разлуч яму, Божа,
Душу із целам,
Бо хто-ж гэтак разлучае
З маладым кавалерам?

Пабі яго, Божа,
Усё цела на раны.
Бо хто-ж гэтак разлучае
Каханыя пары?

* *Кожныя апошнія два радкі паўтараюцца.*



## 2. Баліць, баліць галованька...

(Бяседная, абы калі - ад Уладзіміра Мальца)




Баліць, баліць галованька,
Німа чым зьвязаці.
Наказала-б я да матулі
Німа кім наказаці.

Ой, зьвяжу - ж я галованьку
Шаўковым платочкам
Накажу я да матулі
Сівым галубочкам.

- Ляці, ляці сівы галуб,
Нідзе не садзіся.
Як прыляціш да матулі,
Нізенька скланіся!

Ой, не кажы сівы галуб,
Што я тут гарую,
А скажы ты, сівы галуб,
Што я тут паную.

Ляцеў, ляцеў сівы галуб,
Нідзе не садзіцца.
Як прыляцеў да матулі -
Забыўся скланіцца.

Ой, вырву-ж я квятушачку
І пушчу на воду:
- Плыві, плыві, квятушачка
Аж да майго роду.

Плыла, плыла квятушачка,
Пры беражку стала.
Выйшла маці ваду браці,
Квятушачку спаткала.

А мая-ж ты квятушачка,
Чаго так зблянела?
Мусіць мая дачушачка
Тры годы хварэла.

Ні хварэла, ні балела
Ні дня ні гадзінкі,
Папалася ў ліхі замуж
Ў чужую дружынку.

Самы сядуць вячэраці,
Мяне шлюць па воду,
А я млада, малодзенька,
Не з такога роду.

Ой, вырасьлі канопелькі,
Пара іх ўжо рваці.
Папаўшыся ў ліхі замуж
Трэба гараваці.

А вырваўшы канопелькі
Трэба іх мачыці.
Папаўшыся ў ліхі замуж,
Трэба ў ім жыці.

Вымачыўшы канапелькі,
Трэба іх ужо церці.
Папаўшыся ў ліхі замуж,
Трэба ў ім жыць да сьмерці!

### 3. Пусьці мне, мама, ў сад пагуляці...

(Бяседная - ад Уладзіміра Мальца)




Пусьці мне, мама, ў сад пагуляці,
Бо я ні буду саду ламаці.

Ой, выламаю вінаградзіну
Пашлю да мамы на спарадзіну.?

Парадзь-жа, мама, што мне рабіці -
Зь нялюбым мужам цяжанька жыці.

Навары, донька, рыбунькі з перцам
Пасадзі за стол, назаві сэрцам.

Лепей я буду камень рубаці,
Чым нялюбога сэрцам назваці.

Камень рубаўшы, сеў, адпачынеш,
Сэрцам назваўшы на векі згінеш.

Ой, дай-жа, Божа, цёмныя ночкі,
То ўцяку я ад мужа прочкі.

Ішла я мілю, ішла другую
І напаткала сьмерцю старую.

Сьмерцю старую, сьмерцю страшную -
Вазьмі ты міне, хоць маладую.

### 4. Ой, даўно я, даўно ў матулі была ..
(Бяседная - ад Уладзіміра Мальца)



Ой, даўно я, даўно у матулі была.
Ды ужо-ж тая тай дарожанька
Чабром зарасла!

Чуць, матуля, чуць, адкуль сваты йдуць
Ой, вясёлая тая гулачка
Адкуль яны йдуць.

Дбай, матуля, дбай, міне замуж аддай!
Ой, не дай міне ды за пьяніцу -
Будзе роду жаль!

- Дачушка мая, ты ў мяне адна,
Выбірай сабе, даглядай сабе
Каго ты любя.

Я-й выглядала, я-й выбірала
Ой, і выбрала - горка мая доля -
За пьяніцу іду!

Пьянічунька пье, сваю жонку бье,
Ой, і ён міне маладзенькую
З розуму зьвядзе.

Ой, даўно я, даўно у матулі была,
Ды ўжо-ж тая тай дарожанька
Чабром зарасла.

Чабром зарасла, лісьцём заплыла,
Чырвонаю ды калінаю
Панавісала.

Чабор я прарву, лісьцё праграбу,
А чырвоную я каліначьку
На бок нахілю.

Хоць абрашуся, хоць абмачуся,
То і я ў сваёй роднай матулі
Перасушуся.

Перад кім віно, перада мною квас.
Ой, частуй, частуй, мая матуля,
Бо я госьцік у вас.



**5. Ой, знаці, знаці...**

(Абы калі - ад Уладзіміра Мальца)




Ой, знаці, знаці,
Хто ні жанаты -
(Хто без дзіцяці)
Белыя ручанькі,
Як ў паняняці.

Хто ажаніўся,
Той адмяніўся,
Зморшчыўся, згорбіўся ,
Зь ліца зьмяніўся.

**6. Ой, каціліся тры калы з гары...**

(Бяседная - ад Уладзіміра Мальца)

Ой, каціліся тры калы з гары
Ды на даліну ўпалі.
Любілі мяне тры кавалеры
Ды цяпер перасталі.

Адзін із Русі, другі із Прусі,
(Адзін з Расеі, другі із Прусеі)
Трэці з Украіны
Ой, разкроілі мае сэрдайка
Ды на тры палавіны.

Салавеечка, дробна пташачка,
Усё па ельнічку скача.
Дурна дзеўчына, безразумная
Ўсё па кавалеру плача.

Як мне не плакаць, як мне не тужыць
Як самыя сьлёзкі льюцца,
Што ад мілага пісемца німа,
Ад нялюбага шлюцца.



Ці вы шлецеся, ці не шлецеся,
Я чытаць вас ні буду.
Каго любіла, верне кахала
Таго век ні забуду.

Волікі мае, палавенькія,
Вы чаму не гарэце?
Лецейка мае маладзенькія,
Вы чаму марне йдзеце?

Каб маім валам ды гаратай добры
То яны падгаралі-б.
Каб маім летам ды гаспадар добры
То яны падгулялі-б.



## 7. Прывыкайце, сінія вочкі, адныя начаваці...

(Абы калі - ад Уладзіміра Мальца)




Прывыкайце, сінія вочкі,
Адныя начаваці.*

Пасьцель бела, сьцяна нема,
Не з кім размаўляці.

Ой, выйду я на гулачку,
Стану, падумаю

Вы не едзьце, багатыя,
Пасагу не маю.

Прыяжджайце, гарушчыя,
Я вас дажыдаю.

Каб я мела пасажуньку
Кароўку рабую,

Узялі-б мяне добрыя людзі
Ў старонку чужую.

Ідзі, ідзі дзаўчынанька,
Буду цябе браці,

Я-й не буду маладзенькай
Пасагу пытаці.

Уставай, уставай, нявестачка,
Бадай ты ня ўстала,

Ідзі пажэць тыя кароўкі,
Што з роду пагнала.

Ой, вышла я на гулачку,
Німа чаго гнаці

Німа ойца ні матулі,
Німа каму даці.

* *Кожны другі радок паўтараецца.*



## 8. Ой, пад гаем, гаем...

(Любоўная - ад Уладзіміра Мальца)



Ой, пад гаем, гаем,
Гаем зеляненькім,
Там гарэ Ясюлька
Волікам чарненькім.

Адзін загон коньчыць,
А другі зачына,
Гарэ, выглядае
Ці ня йдзе дзяўчына.

Ой, ня йдзе дзяўчына,
А йдзе стара матка,
- Чаму ў цібе, сынку,
Ні гарэцца гладка?

- Ой, ты мама, мама,
Што ты мне сказала.
Мне-ж тая гадзінка
Цэлым годам стала.



## 9. Па садочку хаджу...

(Абы калі - ад Уладзіміра Мальца)




Па садочку хаджу,
Вінаградзік ламлю.
- Чаму ў цібе, мая маці
Ніжанаты я хаджу?

- Ці-ж табе я ні даю,
Ці-ж табе я бараню?
Вазьмі сынку, Васілёчку,
Хоць удовіну дочку.

## 10. Мае вочы чорныя...

(Абы калі - ад Уладзіміра Мальца)




Мае вочы чорныя,
Чорныя, чорныя.

Цяжка мне жыць з вамі,
Цяжка мне жыць з вамі,
Цяжка жыць.

**11. Ходзіць туман...**

(Любоўная - ад Зосі Карней, 24 год)




Ходзіць туман па даліне,
Шырокі ліст на каліне.

Яшчэ шыршы на дубочку,
Клікаў галуб галубочку.

Хоць не сваю, а чужую:
- Хадзі міла, пацалую.

- На што тое цалаваньне,
Сэрцу жалю задаваньне.

Сэрдцу жалю, а мне тугі,
Не ты возьмеш, возьме другі.

За частымі лозунькамі
Плача дзеўка слезанькамі.

Не плач, дзеўка, не тапіся,
Яшчэ хлопец не жаніўся.

А як будзе жаніціся,
То дасць піва напіціся.

- Не зьдзівуе твоё піва,
Не зьдзівуеш міне віном.

А зьдзівуе твая маці,
Што не дала міне браці.

Твая маці чараўніца,
Людзкіх дзяцей разлучніца.

Разлучыла нас з табою,
Як рыбаньку ды з вадою.

Цяжка рыбе з акуньцамі,
А мне младой з малайцамі.

Цяжка рыбе пад вадою,
А мне младой за табою.

** Кожны першы радок паўтараецца.*



## 12. Распускайся, сыры дубе...

(Бяседная - ад Уладзіміра Мальца)




Зышла, зышла чорна хмарка,
А за ёю сіня.
Спарадзіла матуленька*
Няшчаснага сына.

Яна яго парадзіла
Сярод цёмнай ночы,
Дала яму бела ліца
І сінія вочы.

Распускайся, сыры дубе,
Скора мароз будзе.
Прыбірайся удовін сынок,
Скора паход будзе.

Я-й марозу на баюся,
Скора разпушчуся.
Я-й паходу не баюся,
Скора прыбяруся.

Выйшаў салдат на гулачку,
Нізенька скланіўся:
Выбачайце, суседачкі,
Можа з кім сварыўся.

Ты ні біўся, ні сварыўся
Ні адзі разочак,
Пасадзілі маладога
Ў няшчасны вазочак.

Пыталася ў яго маці,
Калі будзеш госьцем?
Калі ў сенях на памосьце
Травіца выросьце.

Палівайце дарожуньку,
Штобы не курэла.
Разважайце удовуньку,
Штобы не жалела.

Палівалі дарожэньку,
Яна ўсё курэла.
Разважалі удовуньку,
Яна ўсё жалела.

* *Кожныя апошнія два радкі паўтараюцца.*

*Параўнай:* Jan Czeczot. Piosenki wiesniacze z nad Niemna i Dzwiny. Песьня XXXVI на бачыне 21.

## 13. А ўчора зь вячора...

(Ад Язэпа Пастэрнака, 18 г., з двара Лебяда,
воласьць Скрыбаўцы, павет Ліда)




А ўчора зь вячора
Зышоў месяц і зора.
Там мая дзяўчына,
Сэрца едына,
Ў чыстым полі лён поле.*

Ой, поле ды поле,
Ды ўсё ў гору гляне.
А над ёй міленькі,
Як галуб сівенькі,
Ўсё над ёю лятае.

Ой, лятае, лятае,
Ды ўсё кажа "бруку".
- Ой, бруку, ой, бруку,
Падай, міла, руку,
Ой падай, пацалую.

- Я не магу ўстаці,
Для цябе ручкі даці.
Сядай, Ясь, на коня,
Едзь з майго двора,
Ні ты мой, ні я твоя.

Ясь на коня сядае,
Па нямецку гадае:
- Ой, несь міне, коню,
Ой несь міне, вроны,
Да сіняго дунаю.

Ой, дунаю, дунаю,
Я сам долі не знаю,
Ці мне жаніціся,
Ці мне тапіціся,
Я-й сам долі не знаю.

Ой, бяры, рыба цела,
А ты, Божа, душу.
Праз цібе дзяўчына,
Сэрца едына,
Прападаці мушу.

* *Кожныя апошнія тры радкі паўтараюцца.*

**14. Галуб на чарэшні...**

(Любоўная - ад Уладзіміра Мальца)




Галуб на чарэшні, галубка на вішні:*
- Скажы мой міленькі, што ў цібе на мысьлі?

Ці ў цібе на мысьлі замуж мяне браці,
Ці ў цібе на мысьлі мяне пакідаці?

- Цераз фуражэрку не магу це браці,
Мушу сваё сэрца на ключ замыкаці.

Адзін кажа - бедна, другі - не хароша,
А мая міленька, чорная брывенька.

Ў вішнёвым садочку дарожка крывенька,
А дзе пахаджала там мая міленька?

А дзе пахаджала, хадзіць больш ня будзе,
І каго любіла, любіць больш ня будзе.

* *Кожны радок паўтараецца.*



**15. Гдзе-ж ты, хмелю, зімаваў...**

(Жартаўлівая - ад Уладзіміра Мальца)




Гдзе-ж ты, хмелю, зімаваў?
Ў лесе на каліне.
Гдзе-ж ты, хлопчэ, начаваў?
Пры младой дзяўчыне.

- Кепска, сынку, робіш,
Што па ночы ходзіш -
Ой, жаляцца суседачкі,
Што шкодуньку робіш!

- Раз пашоў я да суседа
Люльку закурыці -
Сабраліся суседачкі,
Хочуць мяне біці.

Уцякаў я, уцякаў
Праз усе гароды,
Зачапіўся за гарбуз,
Нарабіў я шкоды.



## 16. Ой, з-пад гаю конік выбягае...

(Бяседная - ад Уладзіміра Мальца)

*Песня пяецда пераважна на мелодыю "Здрада, здрада".*




Ой, з-пад гаю конік выбягае,
На коніку жаўнер выяжджае.

Выяжджае, на скрыпачцы грае,
Струна струне голос падавае.

Струна струне голас падавае,
Маці сына ціха навучае.

- Вазьмі сынку, смаляну нагайку,
І пакарай жонку па парадку.

І зь вячора нагайка шумела,
А з паўночы міла захварэла.

А на вечар нагайка лятала,
А на ранку мілая сканала.

- Маці, маці, парадніца ў хаці,
Парадзіла, чым жонку караці.

Парадзіла, чым жонку караці,
Цяпер парадзь, дзе яе схаваці.

- Пайдзі, сынку, ў вішнёвы садочак
І выкапай глыбокі далочак.

Прысып жонку жоўценькім пясочкам,
І прылажы зялёным дзярночкам,
І пасадзі чырвону каліну.

Няхай расьце, аж да зямлі гнецца -
Твая міла на век не вярнецца.

Ўставай, міла, каліна ўрадзіла,
Любі мяне, як ўперад любіла.

- Няхай расьце, аж да зямлі гнецца,
Маё сэрца да це не вярнецца.

- Ўставай міла, кароўкі рыкаюць,
Пускай бычкі, няхай высысаюць.

- Уставай міла, твой сыночак плача,
- Няхай плача, з жалю памірае,
Няхай знае, што маткі ня мае.
* *Кожны другі радок паўтараецца.*



## 17. І агонь гарыць...

(Любоўная - абы калі, ад Пятрука Семашкі, 55 год.)




І агонь гарыць і вада кіпіць,
Кавалерскае сэрдэйка баліць.
Ой, баліць, баліць, не знаю па ком.
Ці па ойчаньку, ці па матулі,
Ці па той дзеўцы, па красавіцы.
Ой, пайду, пайду у канюшніцу,
Выбяру каня не вучонага,
Не вучонага, не ежджалага.
Сяду паеду на магілушкі,
Прывяжу каня да ляшчынушкі.
Прывяжу каня да ляшчынушкі,
А сам я паеду да дзяўчынушкі.
Жоўценькі пясок разсыпаецца,
Саснова труна адкрываецца.
Саснова труна адкрываецца,
Мілая мая адзываецца.
- Цяпер я твая не кампаначка,
Маладым хлапцам не падманачка.



**18. Ой, вырасла крушынанька...**

(Жартаўлівая, абы калі - ад Уладзіміра Мальца)




Ой, вырасла крушынанька
Вышэй перalазаў,
Надаела прымаку
Ад першага разу.*

Як пайшоў наш прымак
У поле гараці -
Ды забыўся прымачок
Хлеба - солі ўзяці.

Гарэ прымак, гарэ прымак,
Сюды-туды гляне -
Усе жонкі есць нясуць,
Мая не думае.

Гарэ прымак, гарэ прымак
З гары аж да долу,
Выпрагае сівы коні,
Сам ідзе да дому.

Як прыйшоў ён да дому
І задумаў сесьці -
Яму цешча тапор ў рукі -
Ідзі дровы сечы.

Рубаў дровы, рубаў дровы
Парубаў калоду,
Яму цешча вядро ў рукі -
Йдзі прымак па воду.

І зрабіўшы усё гэта
Задумаў ён сесьці.
Яму цешча вядро ў рукі -
Нясі сьвіням есьці.

Бадай вашы тыя сьвіні
Былі паздыхалі,
Як вы мяне, прымачка,
Чыста заганялі.

Пашла кума да кумы,
Стала гаварыці,
Што нашыя прымакі
Не хочуць рабіці.

Бадай ваша тое поле
Гарэла, курэла,
Як мне, беднаму прымаку,
Жыць ў вас надаела.

* *Кожныя апошнія два радкі паўтараюцца.*

## 19. Ой, з-пад дуба...

(Абы калі - ад Уладзіміра Млыца)




Ой, з-пад дуба, з-пад бярозы
Рэчка працякае.

Я-й не буду вады піці,
Вада змучаная.

Я-й не буду жаны біці,
Жана маладая.

Трэба яе прывучыці
Да ўсякай работы.

Шыці, мыці, кросны ткаці,
Пасьцель белу слаці.

- Бадай тая пасьцель бела
Пылам запылела,

Як я ў цябе, маладзенька,
Работы ня ўмела.

Ані шыці, ані ткаці,
Жаці не нагнецца.

Як услышыць музыканта -
Як не разарвецца.

* *Кожны другі радок паўтараецца.*



**20. Прыляцелі гусі...**

(Любоўная, абы калі - ад Уладзіміра Мальца)




Прыляцелі гусі ды з чужога краю,
Замуцілі воду на сінім дунаю.

(Ой, ляцелі гусі з далёкага краю,
Замуцілі воду на сінім дунаю.)

Бадай тыя гусі так марне прапалі,
Як мы кахаліся, цяпер перасталі.

Як мы кахаліся, як пташачкі ў стрэсе,
Цяпер разстаёмся як туман па лесе.

На гуліцы камень сонца разпаліла,
Кліча маць вячэраць, вячэра не міла.

- Вячэрай, матуля, калі наварыла,
Я з тым павячэраю, з кім я гаварыла.

Німа майго мілага, німа майго пана,
Каму дастанецца пасьцель бела заслана.

Німа майго мілага, німа мае душкі,
Каму дастануцца пуховыя падушкі.

Німа майго мілага, німа майго Яна,
З кім я прастаяла - б да белага рана.
** Кожны другі радок паўтараецца.*

**21. Чаму, конік, вады ні пьеш...**
(Любоўная, абы калі - ад Уладзіміра Мальца)




- Чаму конік вады ні пьеш?
Ці дарожку чуеш?
Чаму, сынку жаўнерыку,*
Дома ні начуеш?

- А як жа-ж мне, мая маці
Дома начаваці?
Прыйдзе ночка, прыйдзе цёмна,
Не з кім размаўляці.

Гаварыў бы да коніка,
Конік ні гаворыць.
Як здумаю пра дзяўчыну,
То мне сэрца боліць.

Галуб сівы, галуб сівы,
Галубка сівейша.
Айцец мілы, матка міла,
Дзяўчына мілейша.

Я з бацькамі, як зыдуся,
Ні нагаваруся.
А з дзяўчынай як зыдуся,
То ні расстануся.
** Кожныя апошнія два радкі паўтараюцца.*

## 22. Ой збудую хату...

(Бяседная - ад Уладзіміра Мальца)




Ой збудую хату
З вішнёвага цьвету
І пастаўлю край сяла:*
- Жыві, міла, вясёла.

- Тады была вясёла,
Як ад мамкі везёна,
А цяпер сьвету не бачу,
Па нядолі сваей плачу.

Пайду да каморы -
Ні хлеба, ні солі.
Ой, ні ўцякла, ні зьбяжала
Ад сваей нядолі.

Пайду я да скрыні -
Мукі ні пыліны.
Ой ні ўцякла, ні зьбяжала
Ад сваёй гадзіны.

* *Кожныя апошнія два радкі паўтараюцца*.

## 23. Мела матуля...

(Бяседная - ад Уладзіміра Мальца)



Мела матуля аднаго сына,
Ўзяла яна яго ды ажаніла.
Выправіла сына ў вельку дарожку,
Маладу нявестачку лянок палоці.
- Як аполеш лён, не йдзі да дому,
Стань у чыстым полі хоць быліною.
Як ехаў сынок зь велькай дарожкі,
Увідзеў былінушку за тры мілюшкі.
Прыехаў сынок зь велькай дарожкі,
Пакланіўся матулі пад белы ножкі.
- Матуля мая, ўвесь сьвет звандраваў,
А такой быліначкі ў сьвеці не відаў.
Ад буйных вятроў пахілілася,
Ад яснага сонца распусьцілася.
- Ой, вазьмі, сынок, гостру сакерку,
Высячы, вырубай тую былінку.
Сякануў ён раз - пахілілася,
Сякануў другі раз - папрасілася:
- Ні сячы мяне, я жана твая,
Нарабіла гэта матуля твая.
* *Кожны другі радок паўтараецца.*

**24. Ні сячы дуба...**

(Абы калі - ад Уладзіміра Мальца)




Ні сячы дуба, ні рубай дуба,
Дуб ні хіліцца, ні ў каторы бок.
Ой, ні дай мяне, мая матачка,
Ні за старага, ні за малага.

Я ад малага уцякаць буду,
Белу рыбаньку гатаваць буду.
Белу рыбаньку гатаваць буду,
Ў зялёным гаю начаваць буду.

Хоць будуць пытаці,
Не буду казаці,
Абальюся сьлёзунькамі,
Сама выйду з хаты.

Сястрыца пытала,
Матуля пытала -
Чаго ты, маё дзіцятка,
Так сільна плакала?

Браток даганяе,
Здароўя пытае.
- Ой, не пытай, мой браточак,
Ці жыва-здарова.

Ой, не пытай, мой браточак,
Ці жыва-здарова,
Але пытай, мой браточак,
Яка-ж мая доля.

Фартушок бяленькі,
Ад сьлязок макрэнькі,
А мая кашуля бела
Кроўю акіпела.

Бела рыбанька ні ўварылася,
А я з міленькім пасварылася.
Бела рыбанька то яда мая,
А мой міленькі - сухота мая.

### 25. Малада Марыля па гаю хадзіла...

(Бяседная, абы калі - ад Уладзіміра Мальца)




Малада Марыля па гаю хадзіла
І ў зялёным гаю ўзяла заблудзіла.

- Марыля, Марыля, што па гаю блудзіш?
Відна ты, Марыля, сына майго любіш.

- Каб я не любіла, то я не хадзіла-б,
Я да твайго сына цераз рэчку плыла-б.

Ой, там за ракою Васіль сена косіць,
А яму Марыля сыночка падносіць.

- Васілю, Васілю, вазьмі свайго сына,
А калі ня возьмеш, на пракосе кіну.

- Марыля, Марыля, а што-ж табе даці,
А што-ж табе даці, каб не знала маці?

Пары валоў даці - будзе знаці маці,
Каня варанога - будзеш паяжджаці.

Конік вараненькі - ён мне не дастаўся,
Васіль м'аладзенькі надта-ж спадабаўся.

А у той сьвятліцы два пісары пішуць,
А Васіль сыночка ножкаю калыша.

Люлі, люлі сыне, мой маленькі сыне,
Праз цябе, сыночак, мой маёнтак гіне.
** Кожны другі радок паўтараецца.*

## 26. Дубочак, дубочак, чаму не зялёны?

(Бяседная - ад Уладзіміра Мальца)




Дубочак, дубочак, чаму не зялёны?
Малады малойчык, чаму не вясёлы?*
А як-жа мне жыці, вясёламу быці?
Людскія жаночкі як перапёлочкі,
А мая неўдала мне сьвет завязала.
Ой, вазьму неўдалу за белую руку,
Павяду неўдалу на быструю рэку
І пушчу няўдалу у вір галавою,
Тут табе, няўдала, разлука за мною.
Калінаньку ламлю, вінаградзік шчыплю,
Удованьку люблю, дзетак ненавіжу.
Не ганьбуй мой мілы, маімі дзеткамі,
Ты пойдзеш з касою, яны з грабелькамі.

Ты будзеш касіці, яны загрэбаці,
А я маладая абед гатаваці.
Кашу, кашу сена, сяду адпачыну,
Без сваёй няўдалай на векі загіну.
Каб мая каса ў дугу загнулася,
Каб мая няўдала назад вярнулася
* *Кожны другі радок паўтараецца.*

### 27. Зашумела шум-дуброўка...
(Абы калі - ад Уладзіміра Мальца)




Зашумела шум-дуброўка
Дый заплакала млада удоўка.*
Заплакала, затужыла,
- А што ж я у Бога заслужыла.
Усе дружкі з вайны едуць,
А майго дружка каня вядуць.
Ах, мой конік вараненькі,
А дзе-ж мой дружок маладзенькі?
- У чыстум полі пры даліне,
Ды ляжыць ён як быліна.
У правай ручцы шаблю дзяржыць,
А на левую пахіляе,
На левую пахіляе,
З таварышам размаўляе.
Таварыш, ты браток родны,
Ой, накажы-ж ты жане маёй,

Няхай яна міне не жджэ,
Няхай сабе замуж ідзе.
Калі ёй там горай будзе,
То яна па мне плакаць будзе.
А калі ёй лепей будзе,
То яна міне прызабудзе
* *Кожны другі радок паўтараецца.*

**28. Ой, там каля броду...**
(Бяседная - ад Уладзіміра Мальца)




Ой, там каля броду,
Пьюць галубы воду.
Прасілася жонка ў мужа*
Аж да свайго роду.

- Ой, я сам не пайду
І цібе ня пушчу.
Бо ты скажаш свайму роду
Ўсю сваю прыгоду.

- Хоць будуць пытаці,
Не буду казаці,
Абальюся сьлёзунькамі,
Сама выйду з хаты.

Сястрыца пытала,
Матуля пытала -
- Чаго ты, маё дзіцятка,
Так сільна плакала?

Браток даганяе,
Здароўя пытае.
- Ой, не пытай, мой браточак,
Ці жыва-здарова.

Ой, не пытай мой браточак
Ці жыва-здарова,
Але пытай мой браточак,
Яка-ж мая доля.

Фартушок бяленькі
Ад сьлязок макрэнькі,
А мая кашуля бела
Кроўю акіпела.
* *Кожныя апошнія два радкі паўтараюцца.*

## 29. За бор сонейка закацілася...

(Бяседная - ад Уладзіміра Мальца)




За бор сонейка закацілася,
Мне да брата ў госці захацелася.
- Дзе мяне, браток, спатыкаць будзеш?
Чым мяне, браток, частаваць будзеш?

- Спатыкну, сястра, за новым дваром,
Частаваць буду мёдам і віном.
Частаваць буду і пытаць буду:
Ці добра, сястрыца, за чужым сталом?

- Ой, ці еў, браток, рэдзьку з палыном?
Так мне маладой за чужым сталом.
У канцы століка настаялася,
Лічаных кусочкаў накусалася.



## 30. Ой, ты думушка-дума...

(Абы калі - ад Уладзіміра Мальца)




Ой, ты думушка, дума,*
Зьвяла хлопца із ума.

Ні парою жаніўся,
Ні пад мысьлі жонку ўзяў.

Ні пад мысьлі жонку ўзяў,
Ён із ёю жыць не стаў.

Ой, пайду я на гару
Ды і гляну на ваду.

А на вадзе лодунька,
А ў лодуньцы сьмертунька.

Ой, сьмертунька, матунька,
Прыплыві к майму двару.

Прыплыві к майму двару,
Замары маю жану.
*(пяецца таксама:* забяры*)*

Замары маю жану,
То я табе адгаджу.

То я табе адгаджу,
Срэбрам-злотам заплачу.

Срэбрам-злотам заплачу,
Сам на вечаркі пайду.

На вечарках дзевушкі,
Адна дзеўка хароша.

Адна дзеўка хароша,
Разплецёная каса.

Разплецёная каса,
Разчэсаны валаса
Ажанюся з ёю я.

* *Кожны першы радок паўтараецца, апрача канца песьні.*



## 31. Ой, умру я, умру...

(Абы калі - ад Уладзіміра Мальца)



Ой, умру я, умру
І ня буду жыці.
Пагляджу я - мой міленькі
Ці будзе тужыці?
А ён не тужыўся
Ды сеў, падгаліўся,
Людзі кажуць, што я ўмерла,
А я яшчэ жыва.
Як прышлі суседкі
Цела праважаці,
А ён стаіць, выглядае,
Каторую ўзяці.

Ой, узяў-бы тую,
Што хораша ходзіць -
Людзі кажуць, сам я знаю,
Работы не робіць.
Ой, узяў-бы тую
З чорнымі вачыма -
Людзі кажуць - сам я знаю,
Што сьмерць за плячыма.
А дзеткі маленькі
Ня ўмеюць рабіці,
Пабяруцца за ручанькі
І пайдуць служыці.

## 32. Суха каліна, мокрая лужа...

(Жартаўлівая - ад Уладзіміра Мальца)




Суха каліна, мокрая лужа,
Загневалася жонка на мужа.

Загневалася жонка на мужа,
Лягла на печку, кажа-нядужа.

- Ўставай, мая міла, прынёс я гарэлкі,
- Дай ты мне спакой, шукай сабе дзеўкі.

- Уставай, мая міла, прынёс табе піва,
- Дай ты мне спакой, ледзьве я жыва.

- Уставай, мая міла, прынёс я мёду,
- Дай ты мне спакой, не піла з роду.

- Уставай, мая міла, прынёс я дубіну,
Прынёс я дубіну, на тваю сьпіну.

Мілая ўстала як не ляжала,
Абняла мужа і пацалавала.

- Мне не балелі рукі ні косьці,
Але ляжала ад велькай злосьці.

**33. Каб я тое гора знала...**
(Бяседная - ад Уладзіміра Мальца)




Каб я тое гора знала,*
Не йшла-б замуж маладая.

Замуж пайсці трэба знаці,
Позна легчы, рана ўстаці.

Позна легчы, рана ўстаці
Ды ўсю сямейку абудзіці.

Усю сямейку абудзіці,
Дзяжу хлеба замясіці.

Хлябок мяшу, ручкі ў цесьце,
Дзіця плача у калысцы.

- Ці ты, мілы, сьпіш, ня чуеш,
Ці ты міне не шкадуеш?

- Ой, я не сплю ды ўсё чую,
Цябе, шэльма, не шкадую.

Я-й ручанькі абмахнула,
Сваё дзіця скалыхнула.

- Бо ты, шэльма, спакарыся,
Сьвякроў дзіця пакалыша.

Ой, сьвякроўка не матуля,
Лягла спаці ды не чуе.

А залвіца не сястрыца
Мне дзіцяці не скалыша.

* *Кожны першы ралок паўтараецца.*

**34. Ой, у лузе каліна...**

(Бяседная - ад Уладзіміра Мальца)




- Ой, у лузе каліна
Увесь луг закрасіла.
Не суворная ды дружынунька*
Маё сэрца зсушыла.

Ой, пайду я, пайду я
Ды да броду па воду.
Ой, ды стану я, ды падумаю,
Ці харошага роду.

Я і роду радліва,
На ліцо я красіва,
За ліхім мужам ды за пьяніцай
Мая доля нешчасліва.

Ой, пайду я, пайду я
Ды ў лугу утаплюся.
За ліхім мужам ды за пьяніцай
Я нічога не дабьюся

- Не тапіся, дзіця,
Бо душу загубіш.
Трэба было ды прызнаціся
Каго верне любіш.

- Ах, матуля міла,
Я-й нікого не любіла.
За ліхім мужам ды за пьяніцай
Мая доля нешчасліва.

Каб я тое знала,
Што замужам ліха,
То-й сядзела-бы я ў матуленькі
За плечамі ціха.
(То-й сядзела-бы, бульбы ела-бы
У матуленькі ціха.)

Каб я тое знала,
Шо замужам горка,
Часала-б косу ды па воласу
Яшчэ гадкоў сколька.
** Кожныя апошнія два радкі паўтараюцца.*



## 35. Ой, цяжанька на сэрдайку...

(Любоўная - ад Уладзіміра Мальца)




Ой, цяжанька на сэрдайку,
Як ночка надходзіць,
Мой міленькі, харошанькі*,
Ён да другой ходзіць.

Няхай ходзіць, няхай ходзіць,
Бо ён яе любіць.
Яна яму малодзенька,
За жоначку служыць.

Прыйшоў мілы зь вечарыны,
Стаў ножыкі гастрыць.
Яна яго пытаецца,
Што ты будзеш рабіць?

Ой, не пытай, мая міла
Што я буду рабіць
Табе ўсяго засталося
Адна хвілінка жыць.

** Кожныя апошнія два радкі паўтараюцца.*



**36. Ляцела зязюля...**
(Любоўная - ад Уладзіміра Мальца)




Ляцела зязюля
Цераз сад, куючы,
Заплакаў малойчык,
Ад дзяўчыны йдучы.

Прышоў ён да дому,
Ні казаў нікому,
Кладавіўся спаці,
Каб не чуці ў хаце.

Прышла яго маці,
Стала пабуджаці
- Ўставай, сынок, ўставай,
Пара йсьці гараці.

- Не ўстану, не ўстану,
Не пайду гараці,
Бо я не здужаю
На валы гукаці.

Прышоў яго братка,
Стаў яго будзіці
- Ўставай, браток, ўставай,
Мы пойдзем касіці.

- Не ўстану, не ўстану,
Не пайду касіці,
Бо я не здужаю
Косунькі насіці.

Прышла яго сястра,
Стала пабуджаці
- Ўставай, браток, ўставай,
Мы пойдзем гуляці.

- Не ўстану, не ўстану,
Не пайду гуляці,
Бо я не здужаю
Галоўкі падняці.

- То-ж табе; браточку,
Заплата за тое,
Было не любіці
Трох дзевак учора.

Адна палюбіла,
Платок зарубіла,
Другая любіла,
Рубашку пашыла.

Трэця палюбіла
Ўзяла атравіла.

За тваё каханне
Такая заплата -
Із сасновых дошчак
Цясьненькая хата.
** Кожныя апошнія два радкі паўтараюцца.*

## 37. У полі вярба...

(Любоўная - ад Мікалая Цыбурка, 19 г.)




У полі вярба,
Пад вярбою вада,
Там хадзіла,
Там гуляла
Дзеўка малада.

Дзеўка ад вады,
Хлопец да вады.
- Пастой, пастой,
Дзяўчынунька,
Дай каню вады.

- Рада-б пастаяць,
Каню вады даць.
Мае босенькія ножкі,
Студзёна стаяць.

- Скіну я парчу,
Ножкі абвярчу
А як вярнуся да дому
Боцікі куплю.

- Не купляй ты мне,
А купі сабе.
Ў міне ў хаце тата з мамай,
Яны купяць мне.

## 38. Ой, вішанькі, чарэшанькі...

(Бяседная - ад Уладзіміра Мальца)



Ой, вішанькі, чарэшанькі
Ягадкаў не маюць,
А хто ў прымах не бывае,
Той гора не знае.

А я ў прымах ўсё бываю
І ўсё гора знаю.
Кулачэнькі пад галоўку,
Спаці палягаю.

Кулачэнькі пад галоўку,
Спаці палягаю,
Заўтра рана на расьвеце
Валы запрагаю.

Запрагаю сівы волы,
Сам іду гараці,
Усе жонкі есьць нясуць,
Мае не відаці.

Як прынесла цешча есьці,
Бяз хлеба, бяз солі,
Нарадзіўся прымачэнька
Бяз шчасьця, бяз долі.

Калі хочаш, прымак, есьці,
То еш хлеб з вадою,
Заварачай сівы волы,
Паяжджай да дому.

Едзе прымак, едзе,
На дудачцы сьвішча,
Хавай, донька варэнікі,
Бо ўжо прымак блізка.

Увайшоў прымак у хату,
На парог ступае,
Яму цешча з усіх місак
Абед ізлівае.

Увайшоў прымак у хату,
Ня усьпеў за стол сесьці -
Яму цешча вядро ў рукі,
Нясі сьвіням есьці.

А каб сьвіні паздыхалі,
А цешча згарэла!
Мне беднаму прымачэньку
Жыці надаела.

Ізышліся дзьве кумы,
Сталі гаварыці,
Каб пагнаці прымачэнькаў,
Ім не заплаціці.

Як падслухаў прымачэнька,
Ў сенях пад дзьвярыма,
Увайшоў ён у хатаньку,
Абліўся сьлязіма.

Будзеш донька, будзеш донька,
Мяне ўспамінаці,
Як я буду сівы волы
Ў дубраваньку гнаці.

Зарыкалі сівы волы
З дубраванькі йдучы,
Заплакалі прымачэнькі
З прымаў ўцякаючы.



## 39. Ой, ляцелі гусанькі...

(Абы калі - ад Уладзіміра Мальца)




Ой, ляцелі гусанькі,
Ой, ляцелі дробныя.
Заплакалі маладыя хлопцы
Да прыёму ідучы.
Прышлі да прыёмуньку,
Скінулі адзежуньку,
Скуль узялася шэрая зязюля,
Стала кукаваць.
Гэта не зязюленька,
Родная матуленька,
Яна прышла з дому
Да прыёму
Сына выкупляць.

- Ах, вы прыёмшчыкі,
Вы людзі-ж добрыя,
Адпусьцеце вы майго сыночка
Да дому рабіці.
Бо па роднаму сыну
Айцец, маці плача,
Па няшчасным сіраце
Чорны воран крача.
Не крач, чорны воран,
Накрачашся досіць.
Ня плач, малада дзяўчына,
Наплачашся досіць.



## 40. Цёмная ночка...

(Абы калі - ад Уладзіміра Мальца)




Цёмная ночка,
Ды ня відная ноч была.
Дурная дзеўка,*
Безразумная, малада.

Яна палюбіла
Маладзенькага казачка,
Яна сама пашла
Ў сад вішнёвенькі пагуляць.

Яна сама пашла
Ў сад вішнёвенькі пагуляць
І прыказала
Салавеячку не сьпяваць.

- Ой, не сьпей, не сьпей,
Салавеячка раненька,
Ой, не задавай
Майму сэрдайку трудненька.

Ой, я думала,
Што мой міленькі сьпіць, не чуе,
Ажно мой міленькі
Ўсё нагаечку гатуе.

А я-й думала,
Што нагаечка ні бьецца,
Ажно нагаечка
Каля плечынак уецца.

А я-й думала,
Што нагаечка з паперу,
Ажно нагайка
Із кручанага раменю.

Ой, не бі, не бі
Міне, міленькі, у начы,
Бо мне ня будзе
Дзе маладзенькай уцячы.

Ой, выбі, выбі
Мяне міленькі, сярод дня -
Можа пачуе
Мая родная матуля.
** Кожныя два апошнія радкі паўтараюцца.*

**41. Ой, ты грушка мая...**
(Любоўная - ад Уладзіміра Мальца)




- Ой, ты грушка мая
Кучаравая,
Ой калі-ж ты ўзышла,
Калі вырасла?

- Я вясною ўзышла,
Летам вырасла,
Пры зялёным лужку
Разкладалася.

Пры зялёным лужку
Пазкладалася,
На цябе, мілы мой,
Спадзявалася.

- Ой, хто там ды стучыць
Пад акошачкам?
Ой, ці вор, ці злодзей,
Ці разбойнічак?

- Ой, ні вор, ні злодзей,
Ні разбойнічак -
Гэта міленькі мой
Палюбоўнічак.

Адчыніла яму
Сені й хатаньку,
Пасадзіла яго
На белу лаваньку.

Пасадзіла яго
На белу лаваньку,
Дала я яму
Віна чараньку.

## 42. Ні сама я жыта сеяла...

(Любоўная - ад Уладзіміра Мальца)




Ні сама я жыта сеяла,
(Ні я гэта жыта сеяла)
Сама жыта родзіць.
Ні сама я хлопцаў клікала,
(Ні я гэтых хлопцаў клікала)
Самы яны ходзяць.

Ні хадзеце, мае хлопчыкі,
Каля мае хаты:
Ні тапчэце, бел-малойчыкі,
Мае руты мяты.

Не для вас яр ды сеяла,
Ні вам палівала,
А для таго я пасеяла,
Каго верне кахала.

Ой, ні ўсякаму хароша я,
Ні ўсякаму люба.
Ці я млода вытачоная
З зялёнага дуба.

Ой, ніхто мяне не вытачыў,
Матуля радзіла.
Шчасьлівуюды гадзінаю
Ў пялюшкі спавіла.

Спавівала мяне матачка
У шаўковы пялюшкі,
Каб заходзілі, заяжджалі
З чужой старанушкі.

Спавівала мяне матачка
У шаўковыя паскі,
Каб хадзілі ды кахалі
Маладыя Яські.



## 43. Ой, у полі пад вішанькаю...

(Ад Кацярыны Ошмянкі, 66 г.)




Ой, у полі пад вішанькаю,
Ах, мой Божа, пад вішанькаю.

Там казачок забіты ляжыць,
Ах, мой Божа, забіты ляжыць.

Над ім конік вараны стаіць,
Ах, мой Божа, вараны стаіць.

Капыцейкам а зямліцу бье,
Ах, мой Божа, а зяміцу бье.

Свайму пану вады дастае,
Ах, мой Божа, вады дастае.

- Табе, коню, вады не дастаць,
Ах, мой Божа, вады не дастаць.

А мне маладому з-пад зямлі не устаць,
Ах, мой Божа, з-пад зямлі не устаць.

Бяжы, коню, да нова двара,
Ах, мой Божа, да нова двара.

Там це усгрэне старая ўдава,
Ах, мой Божа, старая ўдава.

Не скажы ты, што забіт ляжу,
Ах, мой Божа, што забіт ляжу.

А скажы ты, што ў вайны служу,
Ах, мой Божа, у вайны служу.

У чыстым полі пры даліначчы,
Ах, мой Божа, пры даліначчы.

Выслужыў сабе магілачку,
Ах, мой Божа, сабе магілачку.

**44. Гарэліца шумна...**
(Ад Паўла Венско, 30 г.)




Гарэліца шумна
Завяла да гумна.
Ой, баліць галоўка,
Завяла да гумна.

А ў гумне старонкі
Поўныя саломкі.
Ой, баліць галоўка,
Поўныя саломкі

Я ў саломцы спала,
Нічога не дбала.
Ой, баліць галоўка,
Нічога не дбала.

Зяленае сена,
Яно міне зьела.
Ой, баліць галоўка,
Яно міне зьела.



## 45. Гора-ж маё, гора...

(Ад Аўдолі Гойкі, 18 г)




Гора-ж маё, гора,
А я ўсё сьмяюся,
Бо я майму гору,
Ды не паддаюся.

Гора-ж маё, гора,
Яшчэ горай будзе,
А хто-ж майму гору
Спагадаці будзе?

## 46. Гора-ж маё, гараванейка маё...

(Бяседная - ад Уладзіміра Мальца)




I

Гора-ж маё, гараванейка маё,
Пацярала красаванейка сваё.*
Усё па чужых дый па людзях жывучы,
Дый старому і малому годзячы.
Ўсё старому і малому годзячы,

Нялюбому пасьцель белу сьцелючы.
Бадай тая пасьцель бела згарэла,
Як ты-ж мяне із дзявоцтва ізьвяла.

II

А як выйду на гулачку за сяло,
То ні ў кога агоньчыка ня відно.
А ў суседкі ды агоньчык гарыць,
Бо ў суседкі ды мой міленькі сядзіць.
Бо ў суседкі ды мой міленькі сядзіць,
А суседка усё няпраўду гаворыць.
"Чую, міла, злу славуньку на цібе,
Ходзяць, ходзяць кавалеры да цібе".
"Пастаў, мілы, варацейка ў раніцы,
То-й ня будуць кавалеры хадзілі".
* *Што другі радок паўтараецца.*

## 47. Памаленьку, паціхоньку...

(Ад Пятрука Саўраса 20 г.)




Памаленьку, паціхоньку
Гнаў Сымонка самагонку.
Ён агоньчык разкладае
І так сабе падпявае:
- Давядзецца пацягнуць!

І агоньчык разгарэўся,
Канец трубкі задымеўся.
Палілася самагонка,
Весялейшы стаў Сымонка.
Ён скрапіўся, раз лыкнуў.

Ён скрапіўся, раз лыкнуўся,
І да тылу павярнуўся:
Стаіць з тылу паліцман.

Забірай, Сымон, рынштунак
І хадзі на пастарунак,
Будзем пісаць пратакол.

Сымон думаў, што та ліха,
Абыдзецца яму ціха,
Но з пятнаццатага году
Замяніў Сымон свабоду
На год месяцаў цюрмы.

Сколькі была там Сымонаў,
Мішкаў, Грышкаў і Антонаў,
Грышкаў, Мішкаў і Мацеяў,
Як-бы чорт іх там пасеяў,
Не адныя толькі мы.

За якую-ж мы пакуту
Будзем піць гэту атруту?
За якую-ж мы пакуту
Будзем піць гэту атруру
І ўсялякаю брыду?



## 48. Ой, пры даліне ды трава зелена
(Бяседная - ад Пятрука Семашкі)




Ой, пры даліне ды трава зелена,  
Дзе ні гляну, там чужая старана.  
(Ой, дзе ні гляну, там трава зелена,  
Дзе ні выйду, там чужая старана.)  
- Ой, салавеечкі, браточкі мае,  
Ці ня былі на маёй старане?  
Ці ня плача ойцец, матка па мне?  
- Ой, плачуць, плачуць, заліваюцца,  
Штодзень госьця спадзеваюцца.

## 49. Ой, пайду я лугам, лугам...
(Бяседная - ад Гэлі Семашко 21 г.)



Ой, пайду я лугам, лугам,*
Дзе мой мілы гарэ плугам.

Ён гарэ ды паглядае,
Што чарняву жонку мае.

Я чарнява радзілася,
Беляваму дасталася (судзілася).

Панясу яму я есьці,
Ці ня скажа ён мне сесьці.

Панясу яму я піці,
Ці ня будзе гаварыці.

І наеўся і напіўся,
Сеў на плуг ды засмуціўся.

- Што ты, мілы мой, думаеш,
Што сядзіш не размаўляеш?

- А я сяджу і думаю,
Што благую жонку маю.

- Браў ты мяне ў дзень, ня ў ночы,
Дзе-ж тады свае меў вочы?

Чаму ехаў ў ноч, ня у дзень,
Ня пытаўся добрых людзей?

Нашы людзі не татары,
Ўсю праўдуньку расказалі-б.

* *Кожны першы радок паўтараецца.*

**50. Каліна, калiначка...**

(На вечарках - ад Марылі Семашко, 50 г.)




Каліна, калiначка,
Каліна мая -
Чаму-ж ты, калiначка*
Рана расьцьвіла?

Чаму-ж ты калiначка
Рана расьцьвіла,
Мяне маладзеньку
Замуж аддала?

Пашла-б да матулі,
Знаю: не дайду,
Папрасіла-б коніка,
Знаю: не дадуць.

Зраблюся зязюляй,
Палячу у сад,
А ў вішнёвым садзіку
Буду кукаваць.

Ці ня ўчуе матуля,
Праз сені йдучы,
Ці не ўчуе сястрыца
Руту пелючы?

Ой, не ўчула сястрыца
Руту пелючы,
А учуў брацейка
Каня паючы.

- Матуля, матуля,
Матуля мая,
Якая там пташачка
Ў саду кукуе?

Самы старшы брацейка
Ўзяў стрэльбу страляць,
Самы млодшы брацейка
Кажа пачакаць.

- Сыны мае, сыны,
Сыны сакалы,
Не бейце той пташачкі
З чужой стараны.

Сярэднейшы брацейка
Служыць на вайне,
Ён жаласнай пташачкі
Нігды не забье.

** Апошнія два радкі паўтараюцца.*

**51. Дзяўчынунька, шуміць гай...**

(Любоўная - абы калі, ад Марылі Сашко, 17 г.)



- Дзяўчынунька, шуміць гай, *
Любі мяне, сэрдайка, не забывай.

- Няхай шуміць, хай гудзе,
А хто верне любіць, той сам прыдзе.

- Дзяўчынунька, адчыні,
Хоць ты маё сэрдайка развесялі.

- Я-й не буду адчыняць,
Бо захочаш ночаньку начаваць.

- Дзяўчынунька, адчыні!
Мы з табой праседзім да зары.

- Зышоў месяц і зара.
Аставайся міла здарова.
* *Кожны радок скрозь паўтараецца.*

**52. Ад зары да зары...**

(Бяседная - ад Дары Семашко, 17 г.)




Ад зары да зары
Міне замуж аддалі,
Міне замуж аддалі*
У чужую старану,

У чужую старану,
Ў нялюбую дружыну,
Самы сядуць вячэраці,
Я па воду іду.

Я па воду іду
І як пчолка гуду.
За частымі сьлёзунькамі
Я дарожкі не найду.

Наліла я вады
Палавіну вядра,
А другую палавіну
Я сьлязамі даліла.

Ой, нясу я воду
Ды прыслухіваю.
Маці сына раіць
Маладую жонку біць.

Прынясла я вады
Ды ўзірапся,
Што сваёй я сьвякровуньцы
Дый не спадабался.

Ой, сыночку ты мой,
Чаму водкі ня пьеш,
Чаму водкі ня пьеш,
Маладой жонкі ня бьеш ?

А за што яе біць
Калі ўмее ўсё рабіць.
* *Кожныя апошнія два радкі паўтараюцца.*

### 53. Журба мая, журба...

(Ад Антося Семашкі, 55 г.)




Журба мая, журба,
Чаго зажурыла^?
Міне маладога*
Зь белых ножак зьбіла.

Пайду я ў карчомку,
Выпью я гарэлкі,
Выпью я чарачку,
Выпью і другую.

Выпью я чарачку,
Выпью і другую -
Можа прызабуду
Журбу праклятую.

Прышоў я ў карчомку,
Гарэлка ні пьецца -
Журба праклятая
Каля сэрца ўецца.
* *Апошнія два радкі паўтараюцца.*

## 54. Ой, Марыля, Маруленька...

(Любоўная - ад Аўдолі Малец, 40 г.)




- Ой, Марыля, Маруленька,
Я ў цібе ўкахаўся,
А ты-ж міне адмовіла,*
Я-й не спадзяваўся.

- Ні я табе адмовіла,
Адмовілі людзі,
Што з нашага каханейка
Нічога ня будзе.

Ой, ня было дый ня будзе
Ніякіх учынкаў -
Сінім вочкам адаспаньня,
Мысьлям адпачынку.

* *Апошнія два радкі паўтараюцца.*



**55. Зь зялёнага гаю казак выежджае...**

(Талочная - ад Гэлі Семашко, 21 г.)




Зь зялёнага гаю казак выежджае,
Харошую дзяўчынуньку сабе намаўляе.
Хароша дзяўчына ды сінія вочы -
Не едзь, не едзь, казачэнька, проці цёмнай ночы.
Бо ночунька цёмна, дарожунька сьлізка,
Не едзь, не едзь казачэнька, бо дзяўчына блізка.

Хароша дзяўчына, ды з добрага роду,
Ўвяла, ўвяла каня ў стайню, ды йшчэ разсядлала.
"Калі ты жанаты, то едзь ты да хаты,
А калі ты не жанаты, жаніся са мною".
"Хоць я і жанаты, маю жонку, дзеці -
На харошу дзяўчынуньку люблю паглядзеці".
** Кожны другі радок паўтараецца.*



**56. Ці ты помніш, мая міла...**

(Любоуная - ад Уладзіміра Мальца)




- Ці ты помніш, мая міла,
Як цібе я выклікаў?
Цераз твой панадворачак*
Чорну сьцежку вытаптаў.

- Тапчы, тапчы, мой міленькі -
Яшчэ шырай прыбяру.
Я на тваёй дарожуньцы
Клён-дзярэўца пасаджу.

Расьці, расьці клён-дзярэўца,
Сама буду паліваць.
Вары маці, вячэраці,
А я пайду у сад гуляць.

А я пайду у сад гуляць,
Шэры гусі заганяць.
Гыля, гыля, мае гусі,
Із паплаўца на дунай!

Гыля, гыля, мае гусі,
Із паплаўца на дунай.
Прашу цібе, мой міленькі,
Ты з другімі не гуляй.

** Аношнія два радкі паўтараюцца.*



## 57. Ой, пад гаем, гаем...

(Талочная - ад Аўдолі Малец)







Ой, пад гаем, гаем,
Гаем зяляненькім -
Там гарала дзяўчынунька
Волікам чарненькім.

Гарала,гарала
На тры баразёнкі.
Пасеяла руту-мяту,
Ўсялякія зёлкі.

## 58. Ой, дрэмлю, дрэмлю...

(Пела на хрысьцінах Марыля Семашко.)












Ой, дрэмлю, дрэмлю,
Бо я спаць хачу.
Ой, злажу-ж я галавуньку
На сьвякроўкі пасьцялюньку,
Можа я там засну.

Сьвякроўка ідзе,
Як вецер гудзе:
- Уставай, уставай, заспалая!
Каб ты долі ні пазнала,
Ідзі карову падай!
(Не маё ты дзіця!)

А я ўстала, памысьляла,
Ды памысьляла мысьлюнькамі,
Ды заплакала сьлёзунькамі
Ўсё каровы доячы.

**59. Здрада, здрада...**
(Ад Гэлі Семашко. Пяецца на ноты "Ой, з-пад гаю...")

Здрада, здрада, мой міленькі, здрада.
Чаму ў цібе ня шчырая праўда?*

Ўчора казаў - буду шлюбаваці,
Дзісь паехаў іншае шукаці.

Хоць абьезьдзіш ўсю Польшч і Ўкраіну,
То ня знойдзеш над міне дзяўчыну.

А хоць знойдзеш з коньмі ды з валамі,
То ня знойдзеш з чорнымі брывамі.

А хоць знойдзеш з ліцейкам пякнейшым,
То ня знойдзеш з сэрдайкам вернейшым.
* *Кожны другі радок паўтараецца.*



## 60. Ці ўсе лугі ды пакошаны...

(Пяецца на ноты "Ні сама я жыта сеяла...", ад Уладзіміра Мальца)

Ці ўсе лугі ды пакошаны,
Ці ўсе сенажаці?
Пытаецца сын у мацеры,
Каторую браці?

- Ой, ці тую багатую -
Волы і каровы?
Ой, ці тую сіраціначку -
Толькі чорны бровы?

А у тае ды багатае
Волы паздыхаюць,
А у беднай сіраціначкі
Бровы не зьліняюць.

А у тае багатае
Бычкі і цялушкі
А у беднай сіраціначкі
Цыцкі як падушкі.

## 61. Салавейка дробненькі...

(Ад Валі Паварга, 18 г. - пяецца на ноты "Ой, ты думушка-дума")

Салавейка дробненькі,*
Галасок твой тоненькі.

Не прылятай да міне,
Не задавай жалю мне.

Не задавай жалю мне,
Бо ў чужой я старане.

Бо ў чужой я старане,
Без матулі, без радне.
* *Кожны першы радок паўтараецца.*

## 62. Каб, дай Божа, грыбы не радзілі...

(Ад Мані Салыга, 18 г., пяецца на ноты "Здрада, здрада")

Каб, дай Божа, грыбы не радзілі,
Каб дзяўчата па іх не хадзілі.*

Няхай ходзяць маладзіцы, бабы,
Не баяцца мужчынскае здрады.

Дзяўчынунька на грыбы хадзіла
І ў зялёным гаю заблудзіла.

Прыблудзіла к зялёнаму дубу
І думала - начаваці буду.

- Я-й думала - дубок зяляненькі,
Ажно стаіць жаўнер маладзенькі.

Жаўнерыку, ўчыні сваю волю
І вывядзі з блуду на дарогу.

- Ой, як вазьму я паўгарца піва,
То зраблю ўжо на ўвесь гаік дзіва.

А як вазьму паўпляшкі гарэлкі,
То спрабую, што за розум дзеўкі.

- Хоць я буду ўсю ночку хадзіці,
То не стану з дурнем гаварыці.
* *Кожны другі радок паўтараецца.*

**63. Вырасла калінка...**
(Ад Гэлі Семашко)

- Вырасла калінка
Стоячы ў цянёчку.
Парадзіла мяне мама,
Няшчасную дочку.
І дала мне мая мама
Няшчасную долю.
Ой, пайдзі ты, мая доля,
Ды на луг папасіся,
Ды ад мяне маладзенькай,
Доля горка, адчапіся.
- Хоць пайду я, доля горка,
На луг папасуся,
Ад цябе я маладзенькай
Ды на век не адчаплюся.
- Ой, пайдзі ты, доля горка,
Хоць у студню утапіся,
Ад мяне ты маладзенькай,
Доля горка, адчапіся.
- Хоць пайду я, доля горка,
Ды у студню утаплюся,
Ад цябе я маладзенькай
Век не адчаплюся.
Бо як пойдзеш воду браці,
За вядзерэйка ўчаплюся,
Ад цябе я маладзенькай,
Век ні адчаплюся.



**64. Баламуце, бойся Бога...**
(Ад Ольгі Малец, 35 г.)

Баламуце, бойся Бога,
Ты багаты, а я ўбога.
Ты багаты, грошы маеш,
А мне млоду ашукаеш.
Ой, дзе гэта ты купаўся
Што так мне ты спадабаўся.

Ці ў барвінку, ці ў шалфее,
Як не віжу - сэрца млее.
За гарою двор бяленькі,
Там паехаў мой міленькі.
Як паехаў то-й не мае,
Маё сэрца памірае.

**65. Ой, там на гасьцінцы карчомка стаяла...**
(Ад Пятрука Семашкі)

Ой, там на гасьцінцы
Карчомка стаяла.

А у той карчомцы
Ды тры чужаземцы.

Адзін чужаземец
На скрыпачцы грае,

Другі чужаземец
Піва налівае,

Трэці чужаземец
Дзеўку намаўляе.

Намовілі дзеўку,
Красную паненку,

Пасадзілі дзеўку
Ў высоку каляску

І павезьлі дзеўку
Палямі, лясамі,

Прывязалі дзеўку
Да сасны касамі,

Запалілі сасну
Ад камля да верху.

Як сасна гарэла,
Дзеўка гаварыла.

Стала гальлё падаць
Стала дзеўка плакаць.

Хто ў лесе начуе,
Няхай голас чуе.

А хто дочкі мае,
Няхай научае.

Няхай научае,
Гуляць не пускае.

Ў каго дочак восем,
Ды усім долі досі.

Я ў матулі адна,
Мая доля марна.

## 66. Сынок Васілёк...

(Ад Марылі Павайбы, 72 г., двор Лебёда)

Сынок Васілёк у гаечку заснуў,
Сынок Васілёк, што за сон прысьніў?
З правага боку панічок стаіць,
З левага боку шабелька ляжыць.
Сядай на каня, ступай да двара,
У нашым дварэ сталася бяда.
Прыехаў пад сад, сад мой не зелён,
Прыехаў пад двор, двор мой ня весёл.
Увайшоў у сені, ложа заслана,
Увайшоў у хату, жонка прыбрана.
У канцы галоўкі сьвечунькі гарацъ,
У канцы нажунек дзетанькі стаяць.
Сьвечачкі гарацъ, зажыгаюцца,
Дзетанькі плачуць, заліваюцца.
Ціха, дзетунькі, прывязу вам маму.
Табе, татачка, жоначка ў стужках,
А нам, сіроткам, мамачка ў сасновых дошках.
Табе, татачка, жонка ў вяночку,
А наша матачка ў жоўтым пясочку.
Ой ты, татачка, ляжаш з жаною,
А мы, сіроткі, зь немай сьцяною.

## 67. Зашумела зялёна дуброўка...

(Ад Аўдолі Малец)

Зашумела зялёна дуброўка,
Забалела Марылі галоўка.
- А хто-жа мне зельля дастане,
Той ў міне міленькім застане.
Адазваўся маладзенькі Ясь:
- Ёсьць ў міне тры коні на стайні,
То я табе зелейка дастаўлю.
Першы конік як лебедзь бяленькі,
Другі конік як воран чарненькі,
Трэці конік як дзятлік рабенькі.
Белым конем да мора даеду,
Чорным конем мора пераеду,
А рабенькім да зельля даеду.

Як стаў Ясенька ды зельля зьбіраці,
Стала над ім зязюля каваці:
"Кідай Ясю, зелейка зьбіраці,
Едзь Марылі вясельля спраўляці.
Ідзі, стань зь мячом пры дарозе,
Будуць ехаць Марыліны сваты.
Раз па каню, трэйчы па Марылі!
Ото-ж табе, Марыля, другое вясельля,
Было не слаць за мора па зельле".

### 68. Я ў нядзелю пьяна была

(Ад Пятрука Семашкі)

Я ў нядзелю пьяна была,
У панядзелак спала.
А ва ўторак снапоў сорак
Пшаніцы нажала.
Ў сераду вазіла,
Ў чацьвер малаціла,
У пятніцу веяла,
У суботу мерала,
А ў нядзелю прадала,
Усё да гроша прапіла.
Піла, піла гарэліцу,
Яшчэ піці буду.
Біла, біла свайго мужа,
Яшчэ біці буду.
Як парвала за чупрыну,
Кінула ў пярыну,
Ляжы, ляжы мілы муж,
А я пайду вазьму прут.
Пакуль прут я нашла,
Перасердзілася.
Я над сваім міленькім
Зміласердзілася.
- Дзякуй табе, міла,
Што ня многа біла.
Куплю табе гарнец мёду
І шкляначку піва.

### 69. Ой, там за ракою...

(Ад Пятрука Семашкі)

Ой, там за ракою
Чуба воду піла,
Шчасьліваю гадзіною
Жонка мужа біла.
Яна яго біла,
А ён яе модліў:
- Не бі, не бі, мая міла,
То я буду добры.
Як не будзеш біці,
Буду слугаваці,
Будзе чуба з яечком,
Буду пільнаваці.
- Ой, ты шэльма, ня слухаў
Майго прыказаньня,
Чуба яйко ізгубіла,
То-ж было-б сьнеданьне.
Пашоў мужык да двора
Жонку наказаці.
Прыказалі у двары
Жонку шанаваці.

**70. Абешчаў мешчанін...**
(Ад Пятрука Семашкі)

Абешчаў мешчанін
Мешчаначку ўзяці,
Яна яму адказала,
Што ня ўмее жаці.

- Я не жала ў свайго ойца
І ў цябе не буду.
Зрабі ў полі халадок,
Я ляжаці буду.

**71.А калі-ж ты здохнеш, мой ты дзядок...**
(Жартаўлівая, абы калі - ад Уладзіміра Мальца)

А калі-ж ты здохнеш, мой ты дзядок?
А калі-ж ты здохнеш, мой галубок?
У сераду, бабка, у сераду, любка,
У сераду, сівая галубка мая.

З кім я буду жыці, мой ты дзядок?
З кім я буду жыці, мой галубок?
Із дзеверам, бабка, із дзеверам, любка,
Із дзеверам, сівая галубка мая.

Мяне сабакі ўкусяць, мой ты дзядок,
Мяне сабакі ўкусяць, мой галубок.
Бараніся, бабка, бараніся, любка,
Бараніся, сівая галубка мая.

Чым мне бараніцца, мой ты дзядок?
Чым мне бараніцца, мой галубок?
Кіявочкам, бабка, кіявочкам, любка,
Кіявочкам, сівая галубка мая !



## 72. Раман ў гаю валы пасе...

(Ад Вінцука Ашмяны, 23 г.)

Раман ў гаю валы пасе,
Кацярына ваду нясе.
Раман валы пакідае,
Кацярыну даганяе.
"Раман, Раман, Раманіку,
Пусьці мяне да доміку.
Ёсьць у мяне злая маці -
Будзе біці і лаяці.
Будзе біці, і лаяці,
І шэльмаю называці".
"Дзе-ж ты, шэльма цягалася,
Ўжо вячэра зварылася".
"Цяпер мама прызнаюся,
Што з Раманам кахаюся.
Прызнаюся табе, мама -
Пакахала я Рамана.
Раман чорны, я белява -
Пажаніўшы, будзе пара.
Ён высокі, а я нізка,
Будзе ў нас фаміля блізка.
Ён багаты, а я бедна,
Будзе пара адпаведна."



**ЗМЕСТ**

У ............................................. Управу Т-ва Беларускае Школы

У м. ........................................

Вуліца ........................................

Грамадзяне (вёскі, места, мястэчка) ........................................

........................................

Воласьці ........................................

Павету ........................................

Пошта ........................................

# ЗАЯВА

Мы, ніжэйпадпісаныя, просім ........................ Управу залічыць нас у сябры Т-ва Беларускае Школы, выдаць нам сяброўскія білеты і залажыць Гурток Т-ва Беларускае Школы у вёсцы ........................................ воласьці ........................................

Часовым кіраўніком Гуртка просім назначыць грамадзяніна (імя і прозьвішча) ........................................

Сядзіба Гуртка будзе мясьціцца ў хаце грамадзяніна ........................................

Пры гэтым абавязваемся выконваць усе вымаганьні статуту, пастановы агульнага сходу і ........................ Управы.

Зьмест § 12 статуту нам вядомы.

| № | ПРОЗЬВІШЧА І ІМЯ | Уласнаручныя подпісы | Прафэсія | Век (не маладзей 21 году) | Назоў вёскі або адрас |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | |
| 2 | | | | | |
| 3 | | | | | |
| 4 | | | | | |
| 5 | | | | | |
| 6 | | | | | |
| 7 | | | | | |
| 8 | | | | | |
| 9 | | | | | |
| 10 | | | | | |
| 11 | | | | | |
| 12 | | | | | |
| 13 | | | | | |
| 14 | | | | | |
| 15 | | | | | |
| 16 | | | | | |
| 17 | | | | | |
| 18 | | | | | |

(Прадаўжаць можна на адвароцe)

УВАГІ: 1. Для заснаваньня гуртка трэба ня меньш як 10 асоб.
2. Калі у сьпіс уваходзяць грамадзяне розных вёсак, то проці̆ў кожнага прозьвішча трэба напісаць вёску, з якой ён паходзіць.
3. Імёны, прозьвішчы і вёску трэба пісаць выразна.
4. Жанчыны могуць быць сябрамі Т. Б. Ш. нароўні з мужчынамі.

# Дадатковая Інструкцыя.

Дзеля таго, што ў многіх мясцох справу аргацізацыі Гурткоў і бібліятэк-чытальняў Т-ва Беларускае Школы вядуць ня так, як трэба, падаем гэту інструкцыю, як дадатак і высьвятленьне да папярэдняй.

Абедзьвюма інструкцыямі кіравацца абавязкова.

**1) Легалізацыя Гуртка.** Пасьля арганізацыйнага сходу сяброў і выбару Управы Гуртка абавязкова прысылаць у Галоўную Управу ў Вільні або ў мясцовую Акружную (калі гэтакая ўжо заложана) копію пратаколу па далучанай форме, адначасна падаючы адрасы сяброў Управы: Старшыні, Сэкрэтара і Скарбніка і дакладны адрэс Управы Гуртка (вёска і дом, дзе месьціцца Гурток).

**2) Зьмена Управы** Калі-б зайшла патрэба зьмяніць Управу Гуртка і выбраць на яе мейсца другую, то праводзіцца гэта на агульным сходзе сяброў, які Управа Гуртка павінна склікаць на жаданьне аднэй трэцяй часткі сяброў. Копію пратаколу гэтага сходу трэба абавязкава прысылаць у Галоўную Управу ці ў мясцовую Акружную (калі такая ўжо заложана) падаючы адначасна адрасы сябраў новае Управы.

**3) Легалізацыя бібліятэкі-чытальні** У справе залегалізаваньня бібліятэкі-чытальні Таварыства трэба, каб асоба, выбраная на загадчыка, прыслала ў Галоўную Управу „Осьвядчэньне“, якое мы далучым да заявы ў Стараства аб залегалізаваньні бібліятэкі-чытальні ці Народнага Дому. Подпіс на „Осьвядчэньні“ трэба, каб быў завераны Натарусам ці Міравым Судзьдзёй.

Загадчык Народнага Дому, бібліятэкі-чытальні, а таксама сапраўдны сябра Гуртка і сябра Управы павінен мець поўных 21 г. *). Асобы што маюць ад 18 да 21 г. могуць быць залічаны ў лік памагаючых сяброў.

Узор „Осьвядчэньня“ і выпіска з Дэкрэту аб складах друкаў і бібліятэках-чытальнях пры гэтым далучаецца.

Калі ў працягу 2-х тыдняў, ад дня падачы заявы ня будзе адмоўнага

адказу з боку Старасты, то бібліятэка будзе лічыцца залегалізаванай і можа адчыніцца фактычна.

**5) Справа складак** Кнігі для бібліятэкі-чытальні Гуртка Т-ва Беларускае Школы можна выпісываць на гэтакіх варунках: трэцьцяя частка вартасьці выпісаных кніг мусіць быць заплачана адразу, а рэшта мусіць быць заплачана хоць ратамі ня больш, як у працягу 3-ох месяцаў, а калі на даўжэйшы час, то трэба выстаўляць вэксэль.

УВАГА: Калі Гурток адразу будзе плаціць грошы за кніжкі для бібліятэкі-чытальні, то атрымае зьніжку 20%; калі-ж вартасьць кніг будзе выплачвацца ратамі, то ніякай зьніжкі ня будзе.

З гэтага ясна, што выгадней купляць кніжкі часткамі і плаціць адразу. Адрэс кнігарні: Wilno, Ostrobramska Nr. 1. Księgarnia Białoruska.

**4) Выпіска кніг.** Па статуту трэба ўносіць сяброўскую складку ня меньш як 50 грошаў у месяц. З прычыны значных расходаў у арганізацыйны час у мясцовую Акружную Управу пакуль што трэба высылаць толькі палавіну сяброўскіх складак. Калі Акружная Управа яшчэ не заложана, то гэту палавіну трэба прысылаць у Галоўную Управу, а рэшта пакінуць Гуртку.

**Папярэджаньне.** У справе арганізацыі і легалізацыі Гуртка і бібліятэкі-чытальні абавязкова трэба кіравацца інструкцыямі Галоўнае Управы. Найменшы ўхіл ад яе можа пацягнуць няпрыемныя і непажаданыя вынікі.

Калі Гурток ці бібліятэка заложыцца ня выпаўніўшы ўсіх вымаганых урадавых распараджэньняў і фармальнасьцяў, то яны будуць лічыцца нелегальнымі, а арганізатары іх будуць пацягнуты да адказнасьці.

**ГАЛОЎНАЯ УПРАВА Т. Б. Ш.**

Вільня, Сьв. Ганны 2—3.

---

*) Сябры памагаючыя уносяць складкі ня меньш як па 2 зл. у год і розьняцца ад сапраўдных тым, што ня маюць права рашаючага голасу і ня могуць быць выбіраны у Установы Т-ва.



*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года    № 15 (1218)   15 КРАСАВІКА 2015 г.

## Будучыня беларускай мовы хвалюе беларусаў




## 130 гадоў з дня нараджэння Сымона Рак-Міхайлоўскага

**Сымон Аляксандравіч РАК-МІХАЙЛОЎСКІ** (14 красавіка 1885, в. Максімаўка Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі раён Менскай вобл. - 27 лістапада 1938, Менск, НКУС; Псеўданімы: Баўтручонак, Беларус, Бутрым Каляда, Сымон Міхалкаў, Сымон Рак; Крыптанімы: С. Р., Р.-М., Сымон Р., Сымон Р-к) - беларускі публіцыст, рэдактар, паэт, грамадска-палітычны дзеяч. Сябар Рады БНР, пасол сейму Другой Рэчы Паспалітай, арганізатар і член ЦК Беларускай сялянска-работніцкай грамады.

У 1900-1904 вучыўся ў Маладзечанскай настаўніц-

нарыі ў Барунах. Адначасова, з восені 1920, настаўнік Віленскай беларускай гімназіі. У 1922 абраны дэпутатам сойма Другой Рэчы Паспалітай. З 1923 член Цэнтральнай школьнай рады (з 1926 - Галоўнай управы) ТБШ. З 1925 намеснік старшыні ЦК БСРГ. З 1926 член КПЗБ. Рэдактар "Бюлетэня пасольскага клуба БСРГ". Арыштаваны польскімі ўладамі па справе БСРГ 15.1.1927; Віленскім акруговым судом 22.5. 1928 на "працэс 56-і" асуджаны на 12 гадоў



## *Падпісны індэкс: 63865*

# Сайт газеты "Наша слова"

Наша слова

ГАЛОЎНАЯ | НАВІНЫ | АРТЫКУЛЫ | ЛЕТАПІСЕЦ | КАНТАКТЫ

### У расійскім Екацярынбургу адкрылі помнік Уладзіміру Мулявіну

Серада, Кастрычнік 15, 2014 / 0 / Навіны

6 кастрычніка ў Екацярынбургу быў адкрыты помнік легендарнаму беларускаму «песняру» Ўладзіміру Мулявіну. Адкрывалі помнік міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў, губернатар Свярдлоўскай вобласці і артысты ансамбля «Песняры».

РУБРЫКІ

- Word
- Артыкулы
- Без рубрыкі
- Летапісец
- Навіны
- Падзеі

Наша слова

## ***naszaslowa.by***

